www.nv-online.info

# Народная Воля

№ 69 (3912)

5 верасня 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

Якуб КОЛАС

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

БЕЗ РЭТУШЫ

Валерый КАРБАЛЕВІЧ

## Украінскі пат

У ходзе развіцця крызісу ва Украіне склалася новая сітуацыя. Апошнія дзесяць дзён украінскае войска ў Данецкай і Луганскай абласцях адступае пад ударамі пераўзыходзячых сіл праціўніка. Гэта не проста тактычная перамена, лакальнае змяненне лініі фронту. Гэта перамена стратэгічная.

Што адбылося? Дасюль стратэгія афіцыйнага Кіева палягала ў ваенным падаўленні мяцяжу на ўсходзе краіны. Украінскае кіраўніцтва спадзявалася, што рана ці позна ўдасца задушыць сепаратыстаў, расійскіх наёмнікаў, перакрыць мяжу з Расіяй і зрабіць немагчымым вайсковае ўмяшанне з боку РФ. Яно кіравалася той логікай, што ўкраінская армія, якая б яна ні была слабая, усё ж здольная перамагчы нерэгулярнае войска сепаратыстаў і засланых расійскіх вайскоўцаў. Усё ж сілавыя структуры Украіны абапіраюцца на падтрымку 40-мільённага насельніцтва і на ўсю моц дзяржавы.

Але тыя падзеі, якія адбываюцца апошнія дзесяць дзён, паказваюць, што такія разлікі былі марныя. Кіеў недаацаніў рашучасць і нахабства Расіі і перааацаніў рашучасць Захаду. Калі стала бачна, што ўкраінскія войскі перамагаюць, што яны атачылі Луганск і Данецк і вызваленне гэтых двух гарадоў — пытанне часу, РФ увяла туды свае рэгулярныя вайсковыя часці. Гэта не было поўнамаштабнае ўварванне. Не ставіцца задача захапіць Кіеў, у чым цяпер абвінавачваюць Пуціна. Расія ўвяла роўна столькі вайскоўцаў, каб не даць Украіне здабыць перамогу. Эксперты кажуць пра 3—5 тысяч расійскіх вайскоўцаў плюс шмат бранятэхнікі. Калі спатрэбіцца, Масква ўвядзе больш. Расія прадэманстравала, што не дазволіць Кіеву здабыць ваенную перамогу на ўсходзе Украіны. Перамагчы расійскія Узброеныя сілы ўкраінскае войска няздольнае.

Такім чынам, гэта азначае, што ваеннага рашэння ўкраінскага крызісу не існуе. Зразумела, можна працягваць баявыя дзеянні гадамі, але які ў гэтым сэнс? Украінскае грамадства ўжо стамілася ад вайны і падштурхоўвае кіраўніцтва да палітычнага ўрэгулявання канфлікту. У чым яно магло б палягаць?

Найперш трэба зразумець мэты ўсіх удзельнікаў канфлікту. Да чаго імкнецца Украіна — відавочна: задушыць мяцеж і ўсталяваць поўны кантроль украінскай дзяржавы над сваёй тэрыторыяй.

Менш зразумела, чаго хоча Расія. Ад дакладнага фармулявання сваіх мэт яна ўхіляецца. З асобных выказванняў расійскіх афіцыйных асоб вынікае, што **Масква імкнецца атрымаць гарантыі пазаблокавага статусу Украіны**. То бок хоча не дапусціць, каб яе заходняя суседка ўступіла ў НАТО.

Але, падаецца, гэтая праблема цалкам вырашальная. Перспектывы ўступлення Украіны ў НАТО блізкія да нуля. Паводле статуту Паўночнаатлантычнага альянсу краіна, якая далучаецца да яго, не павінна мець тэрытарыяльных спрэчак з суседзямі. А тут мы маем не проста спрэчку, а ваенны канфлікт. Плюс неўрэгуляваная праблема Крыма. Асабліва з улікам таго, што сусед — ядзерная дзяржава.

Ужо цяпер відавочна, што Захад ваяваць за Украіну не будзе. Нават фінансавая падтрымка з боку ЗША і ЕС мінімальная. Так што ў гэтым сэнсе Расіі асцерагацца няма чаго.

**Другое патрабаванне Масквы палягае ў тым, каб Кіеў уступіў у перамовы з сепаратыстамі і дамовіўся з імі пра статус гэтых рэгіёнаў**. Калі раней і былі нейкія ілюзіі наконт самастойнасці лідараў ДНР і ЛНР, то пасля таго, як проста і хутка памяняліся ключавыя фігуры ў кіраўніцтве гэтых структур, усё стала на свае месцы. Відавочна, што гэта поўныя расійскія марыянеткі. І іх вуснамі прамаўляюцца планы Масквы.

Што ж кажуць лідары сепаратыстаў? Паводле паведамленняў агенцтваў "Інтэрфакс" і РІА "Новости", прадстаўнікі самаабвешчаных Данецкай і Луганскай "народных рэспублік" патрабуюць "прызнання Украінай адмысловага статусу тэрыторый, якія кантралююцца імі, стварэння ўмоў... для свабодных выбараў кіраўнікоў і дэпутатаў усіх узроўняў "народных рэспублік" на прынцыпах незалежнага народнага кіравання... "Народныя рэспублікі" са свайго боку гарантуюць... захаванне адзінай эканамічнай, культурнай і палітычнай прасторы Украіны і ўсёй прасторы Расійска-Украінскай цывілізацыі".

То бок, калі перакласці гэтыя заявы на звычайную мову, то выглядае, што Масква не патрабуе далучэння ДНР і ЛНР да Расіі. Не ставіцца задача стварэння незалежных дзяржаў, кшталту Абхазіі ці Паўднёвай Асетыі або нават Прыднястроўя. Як можна зразумець, Масква хоча, каб Данецкая і Луганская вобласці мелі асаблівы статус у межах Украіны.

Але і Парашэнка кажа, што гатовы пашырыць аўтаномію рэгіёнаў. Здавалася б, калі праблема ўпіраецца ўсяго толькі ў паўнамоцтвы ўлад абласцей, то можна знайсці кампраміс. Але тут узнікаюць дзве праблемы.

Па-першае, з кім Кіеў павінен весці дыялог па гэтым пытанні? Гледзячы па ўсім, Парашэнка не супраць абмяркоўваць згаданую праблему з Масквой. Але Крэмль адмаўляецца гаварыць на гэтую тэму — кажа, што не ўмешваецца ва ўнутраныя справы Украіны. Маўляў, дамаўляйцеся з сепаратыстамі.

Але Кіеў з прынцыповых меркаванняў не хоча дыскутаваць наконт праблем дзяржаўнага будаўніцтва з расійскімі марыянеткамі. З імі можна размаўляць пра спыненне агню, абмен палоннымі, гуманітарныя пытанні. Але толькі не пра юрыдычны статус гэтых рэгіёнаў.

Другая праблема. Кіеў быў бы і гатовы даць больш паўнамоцтваў рэгіёнам. Але ўсё ўпіраецца ў пытанне, хто будзе кіраваць гэтымі абласцямі. Здавалася б, адказ просты: трэба правесці свабодныя выбары, абраць дэпутатаў, кіраўніцтва і весці дыялог з імі. Дарэчы, пра гэта і гавораць лідары сепаратыстаў.

Аднак хто будзе ўдзельнічаць у гэтых выбарах? Насельніцтва Данецкай і Луганскай абласцей разбеглася ад вайны. Паводле некаторых ацэнак, у гарадах засталося каля трэці жыхароў.

І яшчэ больш важная праблема: калі выбары пройдуць пад кантролем сепаратыстаў (а менавіта гэта і падразумявае Масква), то вынікі іх вядомыя загадзя. Яны будуць прыкладна такія, як вынікі "рэферэндуму" ў Крыме. І выйдзе, што Данецкая і Луганская вобласці будуць фармальна ўкраінскімі, а фактычна — расійскімі. Кіеў будзе іх фінансаваць, адказваць за сацыяльнае забеспячэнне, а ў палітычным плане яны будуць кіравацца Масквой. Відавочна, Кіеў на гэта пайсці не можа.

І атрымліваецца патавая сітуацыя.

## З Днём беларускага пісьменства!

На гэты раз нацыянальнае свята, якое пачынаецца заўтра, разгорнецца адразу на некалькіх пляцоўках. Госці будуць запрошаны ў літаратурныя і музычныя майстэрні, на прэзентацыі СМІ і выдавецтваў. Запланавана работа асобнай тэматычнай пляцоўкі для дзяцей.

Вялікую святочную экспазіцыю падрыхтаваў гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе". Да Дня беларускага пісьменства ў гэтым старажытным горадзе з'явілася некалькі новых аб'ектаў. На святой зямлі з'явіўся помнік заснавальніку горада князю Ізяславу. Абноўлены выгляд набылі чыгуначны вакзал, амфітэатр на Цэнтральнай плошчы, Дом культуры "Світанак", Дом быту...

### ДАРЭЧЫ

*Дзень беларускага пісьменства — нацыянальнае свята, якое адзначаецца ў нашай краіне з 1994 года і праводзіцца з мэтай прапаганды лепшых традыцый нацыянальнай культуры, друкаванага слова, духоўнасці беларускага народа. У розныя гады ён адзначаўся ў Полацку, Тураве, Навагрудку, Нясвіжы, Оршы, Пінску, Заслаўі, Мсціславе, Міры, Камянцы, Паставах, Шклове, Барысаве, Смаргоні, Хойніках, Ганцавічах, Глыбокім, Быхаве.*

ЧЫТАЙТЕ!

## То, что нельзя забыть

*Наш земляк художник* ***Борис Заборов*** *(на фото) уже давно европейская знаменитость. Он родился в 1935 году в Минске в семье художника. Учился в Минском художественном училище, затем в Академии художеств — Институте имени Репина в Ленинграде и Институте имени Сурикова в Москве. Работая после учебы в белорусских издательствах, он быстро завоевал славу талантливого графика. Его работы получали премии на всесоюзных и международных конкурсах. Но это не способствовало укреплению положения художника на родине. Когда его приглашали получить очередную награду за границей — власти отказывали в выезде. Когда он, мечтавший о переходе от книжной графики к живописи, просил о предоставлении мастерской — следовал отказ. Зато в изобилии шли в разные инстанции лживые и, разумеется, анонимные письма. Что было причиной? Тут всего было намешано — и зависть, и принципиальность характера художника, и, конечно, — как без нее в те времена? — пресловутая "пятая графа".*

*Заборов не хотел уезжать. Но атмосфера становилась невыносимой. Он не видел возможностей для своего творческого роста. По сути его вынудили эмигрировать. С начала 1980-х годов он живет в Париже. Здесь в полную мощь развернулся его дар не только как графика, но прежде всего как живописца. Художественный мир узнал Заборова как скульптора и сценографа. Его выставки стали событием в культурной жизни разных стран. Три года назад состоялась наконец выставка его произведений в Беларуси. Работы Заборова приобрели крупнейшие галереи и музеи Франции, Италии, Англии, Германии, Японии, США, России.*

*Но есть у Бориса Заборова еще одна ипостась — литературная. В 2010 году в Санкт-Петербурге вышла книга прозы "Цепь случайностей, или Судьба". Впрочем, в ней представлена и его живопись. В журнале "Знамя" (2012, № 11) был напечатан рассказ "Ядя". В этом году тот же журнал (№ 6) опубликовал повесть* ***"То, что нельзя забыть".*** *А нельзя забыть о родине, о Беларуси, о Минске, о друзьях, о женщинах, которых любил. Эта живущая в душе художника будоражащая память чувствовалась во время нашей встречи и беседы в Париже в 2005 году. Из нее, собственно, и родилась художественно-документальная проза художника. Повесть "То, что нельзя забыть" — это первая часть автобиографического повествования. В ней Минск и Ленинград 1950— 1960-х годов, пора молодого цветения, надежд, любви... Борису Заборову есть что вспомнить. Будем ждать новых глав.*

**Семен БУКЧИН.**

(См. 6-ю стр.)

НАДВОР'Е

## Яшчэ пагрэемся...

У бліжэйшыя выхадныя ў Беларусі прагназуецца цёплае і сухое надвор'е, паведаміла галоўны сіноптык Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Людміла Парашчук.**

*"У першыя дні восені на тэрыторыі Беларусі ўстанавілася пахмурнае надвор'е, ішлі кароткачасовыя дажджы. Але ўлада над надвор'ем паступова пераходзіла да скандынаўскага антыцыклону. Пад яго ўплывам надвор'е ў краіне стала паляпшацца",* — сказала Людміла Парашчук.

У бліжэйшыя выхадныя будзе сухое надвор'е. Ноччу і раніцай месцамі згусцяцца туманы. Тэмпература паветра ноччу складзе плюс 5—11 градусаў, днём паветра прагрэецца да 17—24 градусаў.

У панядзелак атмасферны ціск пачне падаць, з'явяцца аблокі, ночы стануць крыху цяплейшымі. Тэмпература паветра ў начныя гадзіны чакаецца ў межах плюс 8—13 градусаў, днём — ад 18 да 25 градусаў. Прагназуецца ў асноўным без ападкаў. Ноччу і раніцай месцамі туман.

ЧУЛІ?

## У амбасадара Украіны ў Беларусі гіпертанічны крыз

Кіраўнік ваеннай пракуратуры Украіны **Анатоль Маціяс** расказаў аб крымінальнай справе ў дачыненні да экс-міністра абароны, пасла Украіны ў Беларусі **Леаніда Ежаля:**

*— Была адкрыта вытворчасць па фактах разбазарвання бюджэтных сродкаў, якія павінны былі пайсці на патрэбы арміі, у дачыненні да Міхаіла Ежаля. Ён з'явіўся на допыт, дзе яму паведамілі аб падазрэнні. Цягам 72 гадзін ён павінен быў прыйсці ў суд для абрання меры стрымання. Згодна з новым Крымінальным працэсуальным кодэксам Украіны, у нас не было падстаў для яго затрымання. Такі закон. Ён паехаў у Беларусь збіраць рэчы, там у яго здарыўся гіпертанічны крыз, у яго перадынсультны стан.*

*Паводле даведкі ваеннага, падкрэсліваю, цэнтральнага ваеннага шпіталя Мінабароны Беларусі, Ежаль знаходзіцца ў крытычным стане. Пасля выздараўлення і вяртання ва Украіну будзем рабіць тое, што мы абавязаны рабіць па законе.*

У амбасадзе Украіны ў Беларусі пацвердзілі, што Ежаль хварэе. *"Так, Міхаіл Браніслававіч знаходзіцца ў ваенным шпіталі Мінабароны Беларусі. У яго гіпертанічны крыз",* — сказала першы сакратар пасольства Украіны ў Беларусі Марыя Гуцала.

Як вядома, у жніўні Генеральная пракуратура Украіны прад'явіла падазрэнне былому міністру абароны краіны Міхаілу Ежалю. Падазрэнне абвешчана ў рамках крымінальнай вытворчасці па фактах падрыву абароназдольнасці арміі.

АКТУАЛЬНА

## Ці спраўдзяцца надзеі на мір?

***Сёння ў Мінску адбудзецца чарговае пасяджэнне Кантактнай групы па Украіне. Яно пройдзе ў фармаце "Украіна — Расія — сепаратысты Данбаса — АБСЕ". Прэзідэнты Расіі і Украіны выказалі спадзяванні, што менавіта пасля гэтых перамоў можа наступіць мір на Данбасе.***

*"Я ўскладаю велізарную надзею на тое, што ў пятніцу ў Мінску будзе нарэшце пачаты мірны працэс",* — сказаў у сераду ў Кіеве **Пётр Парашэнка.** Сказаў пасля таго, як адбылася яго працяглая тэлефонная размова з **Уладзімірам Пуціным.**

Літаральна праз некалькі гадзін пасля заявы Парашэнкі ўжо Пуцін паведаміў, што падчас пералёту ў Манголію "накідаў" свой план рашэння ўкраінскага крызісу, так званыя "сем пунктаў". Гэты план, у прыватнасці, прадугледжвае спыненне актыўных наступальных аперацый Узброенымі сіламі Украіны і апалчэннем паўднёвага ўсходу, якое павінна прайсці пад міжнародным кантролем, абмен палоннымі па формуле "ўсіх на ўсіх", а таксама адвядзенне ўзброеных падраздзяленняў сілавых структур Украіны на паўднёвым усходзе *"на адлегласць, якая выключае магчымасць абстрэлу населеных пунктаў артылерыяй і ўсімі відамі сістэм залпавага агню".* Прэм'ер-міністр Украіны **Арсеній Яцанюк** адхіліў прапановы расійскага кіраўніка, назваўшы іх *"планам ратавання тэрарыстаў"*. Аднак Пётр Парашэнка, як паведаміла ягоная прэс-служба ў сераду вечарам, пасля тэлефоннай размовы з канцлерам Германіі **Ангелай Меркель**, заявіў, што *"падтрымаў гатоўнасць расійскага боку да рэалізацыі сумеснага плана дзеянняў па мірным урэгуляванні"*. Праўда, на думку Парашэнкі, план дзеянняў павінен змяшчаць *"узаемныя абавязацельствы наконт рэжыму двухбаковага спынення агню, яго маніторынгу і верыфікацыі з боку АБСЕ, вывад усіх замежных войскаў з тэрыторыі Украіны, увядзенне буфернай памежнай зоны, вызваленне ўсіх закладнікаў і грамадзян Украіны, якія незаконна знаходзяцца на тэрыторыі РФ".* Пётр Парашэнка выказаў надзею, што менавіта такі план можа стаць асновай для перамоў кантактнай групы ў Мінску.

Як кажуць, чакаць засталося нядоўга. Праўда, пакуль прэзідэнты прапаноўвалі свае планы, выказваліся за мір, пад Данецкам працягвалася перастрэлка паміж сепаратыстамі ДНР і войскамі ўкраінскай арміі. Учора ўкраінскія інфармагенцтвы паведамілі, што апалчэнцы працягваюць шматдзённы штурм данецкага аэрапорта, спрабуючы выцясніць адтуль украінскіх сілавікоў, а з горада Дэбальцава Данецкай вобласці вымушаны былі адысці два батальёны АТА, іх быццам бы акружылі некалькі тысяч вайскоўцаў Расіі. Зараз каля 190 кіламетраў украінска-расійскай мяжы не падкантрольныя ўкраінскай арміі. Акрамя таго, з'явілася інфармацыя, што баевікі Данбаса дамаўляюцца пра пастаўкі расійскага газу. "Міністр дзяржбяспекі ДНР" Леанід Баранаў заявіў, што перамовы быццам бы прайшлі ў Маскве. "У нас асобная ветка, нам гарантавалі пастудленне газу. Труба заходзіць у Луганскую вобласць і выходзіць у Данецкай, мы дзве адзіныя вобласці, у цэлым не залежым ад Украіны ўвогуле", — перадае РБК словы Баранава.

Дарэчы, у той самы час, калі ў Мінску будзе засядаць Кантактная група па Украіне, у Ньюпарце (Уэльс) праходзіць саміт НАТО, які амаль цалкам прысвечаны сітуацыі ва Украіне. На саміце, як чакаецца, будзе ўхвалена стварэнне сіл хуткага рэагавання НАТО колькасцю ў некалькі тысяч чалавек для абароны краін Усходняй Еўропы ад магчымай расійскай агрэсіі.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ДАСЛОЎНА

### "Расія працягвае дэстабілізаваць сітуацыю на ўсходзе Украіны..."

Генеральны сакратар НАТО **Андэрс Фог Расмусен** перад пачаткам саміта НАТО ў Ньюпарце выказаўся наконт сітуацыі вакол становішча на ўсходзе Украіны.

— Па-першае, з нагоды так званага мірнага плана. Дазвольце мне падкрэсліць, што мы вітаем усе спробы знайсці мірнае рашэнне канфлікту ва Украіне, — заявіў Расмусен. — Сказаўшы гэта, я таксама павінен сказаць, што на самай справе мае значэнне тое, што адбываецца на месцы. На жаль, мы да гэтага часу бачым, што Расія працягвае дэстабілізаваць сітуацыю на ўсходзе Украіны... Мы працягваем заклікаць Расію адвесці свае войскі ад межаў Украіны, спыніць паток зброі і байцоў ва Украіну, спыніць падтрымку ўзброеных баевікоў ва Украіне і прыняць удзел у канструктыўным палітычным працэсе.

СУД ДЫ СПРАВА

## Агнешка РЫМАШЭЎСКА-ГУЗЫ: «У нашай рабоце нічога не зменіцца»

*Учора Вярхоўны суд нашай краіны абавязаў Польскае тэлебачанне спыніць выкарыстанне гандлёвага знака "Белсат" пры трансляцыі на тэрыторыі Беларусі.*

Таксама забаронена выкарыстанне знака на інтэрнэт-старонцы сайта "Белсат", даступнай карыстальнікам на тэрыторыі Беларусі. Акрамя таго, суд пастанавіў спагнаць з адказчыка 9.998.800 рублёў судовых выдаткаў.

Нагадаем, што іск супраць кампаніі Telewizja Polska S.A., якой належыць гандлёвая марка "Белсат", падаў уладальнік беларускай фірмы "БЕЛСАТплюс" **Андрэй Белякоў**. Суды цягнуцца з мая 2013 года. Белякоў кажа, што яго кампанія, якая займаецца продажам абсталявання для прыёму спадарожнікавага і кабельнага тэлебачання, нібыта нясе страты з-за сугучнасці з назвай тэлеканала.

27 студзеня 2014 года калегія Вярхоўнага суда адхіліла іск Белякова ў сувязі з тым, што заяўнік не даў доказаў парушэння яго выключных правоў на гандлёвы знак. Але праз пяць месяцаў Прэзідыум Вярхоўнага суда прыняў рашэнне накіраваць іск Белякова супраць тэлеканала "Белсат" на новы разгляд у сувязі з нібыта недасканалым вывучэннем доказаў па справе. І вось новае рашэнне.

Што зараз зменіцца ў рабоце тэлеканала? З такім пытаннем "Народная Воля" звярнулася да дырэктара "Белсата" **Агнешкі РЫМАШЭЎСКА-ГУЗЫ.**

— У нашай рабоце нічога не зменіцца, — адказвае суразмоўца газеты. — Гэтае судовае рашэнне датычыцца Беларусі, але гандлёвы знак тэлеканала зарэгістраваны ў Польшчы і дзейнасць канала вядзецца ў поўнай адпаведнасці з нацыянальным заканадаўствам і заканадаўствам Еўрасаюза.

**— Для чаго тады беларускі суд выносіў рашэнне? Якія яго магчымыя наступствы?**

— У мяне няма адказаў на гэтыя пытанні, бо і сама не разумею ўсёй гэтай гульні. Калегія Вярхоўнага суда адхіляе іск Белякова, затым справа накіроўваецца на новы разгляд... Вельмі дзіўна, што рашэнне суда з'явілася менавіта ў той час, калі пачалі паляпшацца беларуска-польскія стасункі. Навошта сёння супрацьстаянне ўладам? Можа быць, гэта ў іх такая тактыка?

**— Тэлеканал не будзе адмаўляцца ад гандлёвага знака?**

— Чаму мы павінны гэта рабіць, калі карыстаемся сваім брэндам у Польшчы, дзе і зарэгістраваны? Давайце ўявім сітуацыю, што дзе-небудзь у Буркіна-Фасо знойдзецца фірма "CNN плюс", якая падасць у мясцовы суд, каб вядомая тэлекампанія адмовілася ад выкарыстання свайго гандлёвага знака. Абсурд!

**— Можа быць, пасля судовага рашэння абмяжуюць вяшчанне вашага тэлеканала на тэрыторыі Беларусі?**

— Не ўяўляю, якім чынам такое можна зрабіць. Гэта будзе тэхнічна складана і галоўнае — абсалютна супрацьзаконна.

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

МОДЕРНИЗАЦИЯ

*Василий ЛЕОНОВ:*

# Прокормить три Москвы — задача для нас посильная



*Эмбарго на поставку продуктов с Запада в Россию вдохновило белорусских аграриев на новые подвиги. Лукашенко пригрозил завалить Россию белорусскими продуктами, а министр сельского хозяйства и продовольствия Леонид Заяц даже назвал конкретные цифры: АПК Беларуси может увеличить поставки сельхозпродукции на 40—50%.*

*По плечу ли белорусским аграриям столь амбициозные планы? Способен ли сегодняшний убыточный АПК на такие подвиги? Как реформировать агропромышленный комплекс, чтобы действительно завалить Россию продуктами, не посадив на голодный паек самих белорусов? На эти и другие вопросы в рамках проекта "Реформум" отвечает бывший министр сельского хозяйства Василий ЛЕОНОВ.*

**— Руководитель отрасли назвал конкретные цифры — поставки нашей восточной соседке молочной продукции могут быть увеличены на 40 — 50%, мясных полуфабрикатов — на 15—40%, овощей — до 40%, картофеля — в два раза… Реально ли это?**

— Сельское хозяйство Беларуси способно прокормить 30 миллионов человек. Потенциально этого можно достичь за 7—10 лет. Созданная Богом земля, климат и даже люди позволяют достичь такой цели. Так что слова сегодняшнего министра сельского хозяйства не преувеличивают наши возможности.

В 1996 году я положил окончательные расчеты и президенту, и тогдашнему премьеру Михаилу Чигирю. Спустя два года после того, как удалось вывести на конкурентное производство птицу и свинину, министерство подсчитало: мы способны приобретать 60% нефти и газа от всей потребности Беларуси только за счет продуктов питания!

Если на уровне колхоза "Беларусь", на землях которого мы сейчас с вами разговариваем (знаю его председателя, знаю, как ведется хозяйство) будет работать все сельское хозяйство — страна способна увеличить поставки сельхозпродукции в два раза.

Проблема в другом — есть группа руководителей, которые имеют мужество вести хозяйство как надо, однако большинство, увы, действует по принципу "чего изволите"...

**— По данным за 2011 год почти 90% продовольственных товаров, которые Беларусь экспортирует, уходят сегодня в Россию, 6% — в других странах СНГ и лишь 5% — за пределами стран СНГ. Чтобы увеличить поставки продукции наполовину, ее надо произвести. По плечу ли эта задача белорусскому АПК?**

— Я придерживаюсь такого принципа: тупики бывают только в мозгах. Если из мозгов убрать тупики, которые не дают хозяйствам работать, сельское хозяйство будет развиваться, а если не убрать — оно ничего не сделает. Все, точка.

Резюме: командными методами успехов достичь невозможно. Надо научить людей и заинтересовать.

**— Каким образом?**

— Очень просто — все уже пройдено: и нами, и другими странами. Схемы известны...

**— Лично вы как оцениваете сегодняшнее состояние сельского хозяйства?**

— Я считаю, невозвращение кредитов, задолженностей свидетельствует о том, что цифры по надоям, привесам — дутые.

**— Если мы серьезно увеличим поставки своей продукции в России, не положат ли белорусы сами зубы на полку?**

— Европейцы доставят сюда все, что надо. А еще африканцы, американцы, азиаты, — все с удовольствием повезут к нам сельхозпродукцию.

**— Не на это ли белорусы и рассчитывают: продавать свою продукцию в Россию дороже, а самим закупать дешевеющие европейские продукты?**

— Может быть. Вопрос лишь в следующем: а чем платить? Зайдите в магазин — там все есть и будет. Вы же видите: Россия ввела эмбарго на продукты стран Запада, но оно не коснулось Беларуси и Казахстана. Можно вывезти все яблоки — завтра тут будут польские.

**— Значит, стоит ожидать активизации серых схем реэкспорта сельхозпродукции?**

— Сам Путин признал, что через Беларусь идет реэкспорт сельхозпродукции — явно не одну машину задержали на границе. Мы никак не можем привыкнуть, что главное на рынке не товар, а деньги.

**— Белорусское сельское хозяйство нуждается в реформах — это признали все.**

— ...И президент признает.

**— Но реформы — пустое слово, если оно не наполнено конкретным содержанием.**

— Те шаги и попытки, о которых я слышал, отнюдь не реформы.

Что делать? Прежде всего вернуть людям свободу. С одной стороны, надо дать возможность работать инициативным предприимчивым людям. Но этого мало. Россия зажгла "зеленый" перед свободой, о которой я настойчиво толкую, но там ничего не получается. Потому что с другой стороны — необходимо правильное государственное регулирование. Применительно к сельскому хозяйству — это защита рынка, защита производителя. Ведь белорусское сельское хозяйство производит достаточно много неплохих продуктов. Но их нет в гипермаркетах! Чтобы попасть в сеть распространения, говорят, нужно много дать под столом; я не сомневаюсь, что надо дать очень много.

Кстати, Лукашенко, придя к власти, разрешил мне лично открыть фирменную торговлю сельхозпроизводствам. Сразу в пику и Минторгу, и Белкоопсоюзу: я произвел и продал, а тебе нужно крутить цены в установленных пределах.

Научить, заинтересовать и предоставить возможность продать — вот что главное.

**— Но есть другая опасность: белорусские производители погонят всю продукцию в Россию, где цены выше. Вы согласны? Это никуда не годится?**

— Если тебе платят дороже — продавай, пожалуйста! Соотношение "цена—качество" — от этого никуда не денешься.

Другое дело, торговля может отказываться брать на реализацию продукцию: ей невыгодно, ей неизвестен поставщик — все может быть. Это нездоровые общемировые тенденции, особенно характерные для России, Беларуси.

Хуже того, я знаю, что на белорусские рынки приходят выходцы из южных республик бывшего СССР и берут их под контроль. А милиция не хочет мешать. За сложным процессом должно следить государство — чтобы крестьянин мог привезти и продать свою продукцию, чтобы работала заготкооперация: пришли-забрали. Но оправдавшая себя система разрушена.

И не надо кричать, указывать, когда, где и сколько следует сеять — это должны решать специалисты, ученые, а не власть. Но у нас сплошь районный начальник кричит: пора сеять! — а на полях болото...

Чтобы делать реформы, собственник должен быть свободным, ему государство должно всячески помогать и защищать. Все!

**— И тогда мы сможем накормить три Москвы?**

— Мы можем спокойно накормить 30 миллионов человек: это по ориентации на уровень вчерашнего дня — предложения-то наши готовились еще в 1996 году! А если достигнем такого уровня науки, как в Голландии, тогда сможем говорить и про все 60 миллионов. Голландия занимает второе место в мире по производству сельхозпродукции, хотя по территории она куда меньше.

**— Значит, сейчас нужно держаться за российский рынок?**

— Белорусское сельское хозяйство должно быть конкурентоспособным. Для нас сегодня благо — открытый российский рынок. У соседей выведено из оборота земель в целые четыре Беларуси: зарастают лесом, сорняками. Там провели так называемую приватизацию: одному корову, второму — быка, третьему — скважину, четвертому — автопоилку... В итоге все развалилось. В Беларуси этого не произошло: заслуга Кебича, Юнцевича, и, надо отдать должное, Лукашенко тоже не пошел по пути развала колхозов и совхозов.

**— Но заслугу в том, что сельское хозяйство у нас не развалено, приписывают исключительно Лукашенко…**

— Неправда. Не дал развалить сельское хозяйство председатель совета колхозов Юнцевич, который первым публично восстал против этого. Поинтересуйтесь, когда Минская область выгнала к Дому правительства и заняла всю площадь сельхозмашинами, тракторами? Когда закричали: разгоним колхозы, распустим фермы — крестьяне восстанут! Надо отдать должное: Кебич не дал осуществить разбой, потому что не был в том заинтересован.

И только придя к власти, Лукашенко поддержал эту линию. Но к тому времени желание разогнать колхозы уже остыло.

**Владимир ЖУРАВОК.**

РЭГІЁН

## *Сумны вынік моўнага эксперыменту*

"Салодкі Дзень ведаў" правялі ў Магілёве прадстаўнікі камерцыйнай арганізацыі Cukerki.by і актывісты гарадской грамадскай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". Яны віншавалі мінчан з Міжнародным днём ведаў, а заадно высвятлялі, наколькі добра магіляўчане ведаюць родную мову.

Кожнаму прапаноўвалася перавесці на рускую мову тры беларускія словы. Як распавёў каардынатар праекта Сяргей Дыскоў, апытанне паказала, што многім гараджанам незнаёмыя самыя простыя бытавыя беларускія словы: "шклянка", "кубачак", "слоік", "відэлец", "патэльня". Слова "імбрык" ведалі ўсяго два чалавекі, а словы "сподачак" і "келіх" і зусім уводзілі людзей у ступар.

Цяжкасці ўзнікалі таксама з перакладам слоў "гузік", "дыван" (да гэтага часу блытаюць з канапай), "кавун", "дах", "нядзеля", "кавярня", "ветразь" (памятаюць як назву кінатэатра).

Кожнаму ўдзельніку міні-віктарыны дасталіся салодкія падарункі. Усяго за час правядзення акцыі валанцёры раздалі каля 24 кг цукерак. Атрымліваецца — за няведанне роднай мовы.

НАША ЖЫЦЦЁ

## *Беларусы адмаўляюцца ад жыллёвых крэдытаў*

Прычына зразумелая: высокія працэнтныя стаўкі. Нягледзячы на запатрабаванасць насельніцтвам у такіх крыдэтах, у гэтым годзе многім беларусам яны падаліся не па кішэні.

Днямі прэс-служба "Беларусбанка" паведаміла, што на працягу некалькіх апошніх гадоў назіраўся ўстойлівы рост выдачы жыллёвых крэдытаў. Так, у 2012 годзе крэдытамі на нерухомасць скарысталіся больш за 8 тысяч крэдытаатрымальнікаў, у 2013-м — амаль 13 тысяч. *"Сёлета адзначаецца зніжэнне попыту насельніцтва на жыллёвыя крэдыты, што абумоўлена высокімі працэнтнымі стаўкамі па такіх крэдытах",* — адзначае прэс-служба "Беларусбанка".

Як вядома, банкі маюць права самастойна вызначаць умовы выдачы крэдытаў фізічным асобам, у тым ліку стаўку па крэдыце і яго максімальны памер. З пачатку года "Беларусбанк" на 3,5 працэнта знізіў стаўку па крэдыце на фінансаванне нерухомасці, але і цяперашні крэдыт, які выдаецца пад 35% гадавых, мала каму па кішэні. Ды ўвогуле ці мэтазгодна яго браць, калі вяртаць прыйдзецца больш за трэць ад узятых грошай.

САЛІДАРНАСЦЬ

## *Вячэра з Саладухам*

*Спявак Аляксандр Саладуха выставіў сустрэчу з сабой на аўкцыён у падтрымку Максіма Алейнікава.*

Нагадаем, што беларускія зоркі праводзяць актыўную піяркампанію па падтрымцы прадзюсара Максіма Алейнікава, які хворы на гепатыт С. Адна з самых вядомых персон айчыннага шоубізнесу Аляксандр Саладуха выставіў сустрэчу з сабой на дабрачынны аўкцыён МаеСэнс.

Сустрэча адбудзецца 20 верасня ў адным са сталічных рэстаранаў. Саладуха гатовы сустрэцца з трыма сваімі прыхільнікамі — пераможцамі лота. Сабраныя грошы будуць пералічаны на лячэнне Максіма Алейнікава.

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Еще раз об омбудсмене, или «Мелочи» частного характера

*В короткой статье (см. "НВ", №68, 02.09.2014 г.) всего не скажешь об объемном документе, каким является проект Концепции национального учреждения по правам человека в Беларуси, подготовленный Г.Василевичем. Дополнительно хотелось бы провести некоторые параллели между положениями, которые он предлагает, и моим "увольнением" с должности судьи Конституционного суда в январе 1997 года.*

## Предыстория

Парадокс ситуации в том, что "увольнял" меня с должности бывший коллега, специалист в области трудового права Григорий Василевич, ставший в одночасье и.о.председателя Конституционного суда. Увольнение было произведено на основании президентского указа №106 от 24 января 1997 г. с формулировкой *"...в связи с окончанием срока его полномочий"*.

Положенного в этом случае выходного пособия мне не выплатили. Начисленную за январь зарплату тоже не выдали. Восстановиться в прежней (досудебной) должности не предложили. Совсем, как в 1930-е годы: без выходного пособия и с "волчьим билетом" — без права трудоустройства в государственных учреждениях.

А ведь до избрания в Конституционный суд я многого достиг в сфере юриспруденции: в 35 лет защитил докторскую диссертацию, получил звание заслуженного юриста Республики Беларусь, в 36 лет стал профессором, занимал руководящую должность в Институте национальной безопасности. В Конституционном суде тоже пользовался уважением коллег. Мне поручались дела, имеющие общественный резонанс. Проявлял принципиальность в отстаивании своей позиции, в том числе и по делу "об импичменте".

Поначалу мы с Г.Василевичем были в дружеских отношениях. Нас объединяла учеба в аспирантуре БГУ, потом встречались. Он приглашал меня к себе домой, познакомил с милой женой. Все изменилось после первого особого мнения. Я даже зашел к Г.Василевичу в кабинет, пытаясь понять его аргументы. Но сразу понял, что это — сознательная позиция. Дальше мы отдалились друг от друга, вплоть до того, что перестали здороваться.

Перед увольнением мне через помощника Г.Василевича было предложено написать прошение об отставке на имя А.Г.Лукашенко, но от этого я отказался. Тогда последовал указ и скорое увольнение.

С тех пор прошло почти 20 лет. Г.Василевич после демонстрации своей позиции в Конституционном суде получил высшие должности, даже побывал Генеральным прокурором. В свободное от работы время занимался научным творчеством (в досье участника конференции от 18 июля 2014 г. он написал, что имеет более тысячи публикаций, из них около ста книг, монографий, учебников. Без преувеличения: это — рекорд в белорусской научной сфере!). И вот новый "шедевр" — его проект Концепции Национального учреждения о защите прав человека в Беларуси. В целях более углубленного изучения познакомимся с ее отдельными фрагментами.

***"…создание Национального учреждения активизирует процесс защиты прав и свобод человека, усилит информационно-просветительскую функцию государства в сфере прав и свобод, будет способствовать формированию более высокой культуры в данной области".***

В других странах омбудсмен "насмерть" бьется за восстановление нарушенных прав граждан, а белорусский уполномоченный будет усиливать информационно-просветительскую функцию государства в сфере прав и свобод. А еще он может, по мнению Г.Василевича, усилить правозащитную функцию парламентских комиссий, судов, прокуратуры, адвокатуры и даже профсоюзов. Для этого нужна всего лишь "некоторая корректировка действующих актов", в частности, законов "О Национальном собрании Республики Беларусь", "О Президенте Республики Беларусь", "О прокуратуре Республики Беларусь", Кодекса о судоустройстве и статусе судей. После этого права человека окажутся под надежной защитой. И это все благодаря уполномоченному.

Как говорится, свежо предание, да верится с трудом. Сколько лет всем миром, вместе с президентом, не можем справиться с таким "злом", как коррупция. А тут — надо обеспечить права человека, и не одного, а всех. По плечу ли это уполномоченному, если он, как предлагает господин Василевич, будет назначаться президентом?

***"Жалоба принимается, если исчерпаны все средства административной и судебной защиты внутри страны".***

Получается, что граждане могут обратиться к омбудсмену, только пожаловавшись во все инстанции: и вышестоящим начальникам, и судам. После прохождения всей этой "канители" уполномоченный может рассмотреть жалобу, но может и отказать в ее приеме, "если придет к выводу, что она носит необоснованный характер". А можно ли жаловаться на уполномоченного? Трудно сказать: нет разъяснения. Разве что "гаранту" защиты прав и свобод "в административном порядке".

Уполномоченный может по собственной инициативе принять "соответствующие меры" при наличии информации о массовых или грубых нарушениях прав и свобод граждан, а также в других экстраординарных случаях. Но ведь может и не принять?! Так и случалось, когда Конституционный суд под руководством Г.Василевича спокойно наблюдал, когда намечался референдум в октябре 2004 года по незаконному продлению сроков президентской власти, когда принимались явно неконституционные законы, декреты, указы. Позицию наблюдателя часто занимала и Генеральная прокуратура в бытность там Г.Василевича, когда граждане просили о восстановлении законности, в том числе в пенитенциарной системе.

***"В Законе об Уполномоченном следует оговорить, что принимаются к рассмотрению те жалобы граждан, основание для подачи которых возникли после принятия закона…"***

А что делать гражданам, права которых были нарушены раньше, в период "торжества" белорусской демократии? На кого надеяться тем, кто отсидел по политическим мотивам? Что делать мне и еще 60 с лишним гражданам Беларуси, в отношении которых власти не выполняют решения Комитета ООН по правам человека? Это ведь длящееся правонарушение со стороны соответствующих должностных лиц, которые годами осуществляют дискриминацию граждан из-за их политических убеждений.

Как быть с тем, что в проекте Концепции Василевича черным по белому написано: *"Предметом особой заботы Уполномоченного может быть состояние реализации в законодательстве и на практике международных документов, составляющих билль о правах человека".*

Так можно ли обращаться к уполномоченному, если власти преднамеренно не восстанавливают граждан в правах по прошедшим фактам произвола? На мой взгляд, можно, поскольку для случаев нарушения прав человека при авторитарном режиме не должно быть сроков давности. И поэтому не стоит надеяться, что можно отгородиться от допущенных беззаконий подобной нормой закона.

***"Уполномоченного следует также наделить правом обращения в Конституционный суд наряду с субъектами, указанными в части четвертой ст.116 Конституции".***

А как это будет осуществляться на практике? Уже лет пять ни один из указанных субъектов не обращается в Конституционный суд. Станет ли исключением уполномоченный? Хватит ли у него духу поставить перед КС вопрос о признании неконституционным Закона "О массовых мероприятиях", подвергнуть сомнению контрактную систему труда, действующую в стране с 1999 года, главу УПК о касте "неприкасаемых", то есть лицах, которых можно привлекать к уголовной ответственности только с согласия президента? Или лучше "отмолчаться", глядя на пассивную позицию других субъектов?

В предыдущей статье говорилось о порядке назначения уполномоченного и требованиях, которые к нему должны предъявляться. Но не упоминалось о гарантиях его независимости и неприкосновенности. Между тем они продуманы так тщательно, как будто они написаны Г.Василевичем для себя лично. Особенно умиляет одно из положений его проекта:

***"По окончании полномочий Уполномоченному и его заместителям в течение трех месяцев предоставляется работа (должность) не ниже той, которую они выполняли (занимали) до назначения на должность Уполномоченного, его заместителей. За все время задержки предоставления указанной работы выплачивается среднемесячная заработная плата Уполномоченного, его заместителей".***

Положение правильное: после окончания полномочий, в том числе в связи с досрочным освобождением от должности, заслуженному работнику надо предоставить прежнюю работу (должность) и выплатить соответствующее выходное пособие.

Так думает Г.Василевич сейчас. А чем он руководствовался, когда увольнял меня в январе 1997 года? Ведь в указе в отношении меня значилась формулировка: "освободить от должности в связи с окончанием срока его полномочий". Здесь я опускаю вопрос о том, что мы — судьи — тоже были персоны неприкосновенные и нас избирал парламент — Верховный Совет — сроком на 11 лет. Но даже если кому-то показалось, что срок моих полномочий закончился так быстро, то отнеситесь ко мне уважительно, восстановите мой прежний статус, хотя бы верните туда, где я работал. Тем более что к тому времени я получил статус госслужащего 1-го класса. Да и по военной линии я должен быть получить очередное звание полковника.

Учитывая, что в должности и звании меня не восстановили, я могу претендовать на выплату среднемесячной зарплаты судьи Конституционного суда до момента восстановления меня в законной должности. В то время зарплата у судей КС составляла порядка 500 долларов (в эквиваленте), а сейчас — в три-четыре раза больше. Подсчитаем, какое я должен получить вознаграждение с января 1997 г. по настоящее время: 12 месяцев умножаем на 17 лет со средней зарплатой 1000 долларов, получается 204 тысячи долларов. Добавляем выходное пособие при "прощании" с должностью за шесть месяцев, а также начисленную, но невыплаченную зарплату. Еще нужна компенсация за моральный вред: за то, что меня — уважаемого человека, заслуженного юриста — превратили в безработного, не признаваемого в госучреждениях, гонимого из всех ученых Советов, редакций журналов, попавшего под "колпак" КГБ. Ведь загубили карьеру, всего лишили, оставили без копейки в кармане!

Кто-то знающий может сказать: "Молчи и радуйся! Тебе еще повезло, что ты — с нами, а мог бы значиться среди бесследно пропавших либо эмигрировавших за границу". Согласен, и благодарю судьбу за такую долю!

* * *

По названным и многим другим причинам не могу поддержать проект Концепции Г.Василевича. На ее основе "не родится" настоящий омбудсмен — народный правозащитник. Ее трансформация в закон приведет к тому, что в бюрократическом механизме власти появится еще одна "фигура", которая голосом автоответчика будет призывать органы власти и должностных лиц действовать по закону, уважать права человека, повышать правовую культуру общества.

А не пора ли обновить закостеневшую систему власти и пустить в нее новых людей? Тем более выборы не за горами...

**Михаил ПАСТУХОВ, экс-судья Конституционного суда Республики Беларусь, сохранивший верность Присяге и Конституции.**

БУДЬ В КУРСЕ!

## *Техосмотр подорожал*

*С 1 сентября "Белтехосмотр" установил новые тарифы на проведение диагностических работ. Сколько теперь придется платить автолюбителям, зависит от марки машины.*

Легковой автомобиль с бензиновым двигателем (колесная формула 4х2) — 160 тыс. рублей;

Легковой автомобиль с бензиновым двигателем (колесная формула 4х4) — 170 тыс. рублей;

Легковой автомобиль с дизельным двигателем или работающий на газу (колесная формула 4х2) — 165 тыс.;

Легковой автомобиль с дизельным двигателем или работающий на газу (колесная формула 4х4) — 180 тыс.;

Автобус с технически допустимой массой не более 5 тонн — 213 тыс.;

Автобус с технически допустимой массой более 5 тонн — 300 тыс.;

Прицеп с технически допустимой массой не более 0,75 тонн — 59 тыс. рублей;

Прицеп или полуприцеп с технически допустимой массой более за 3,5 и не более 10 тонн — 117 тыс.;

Мотоцикл, мопед, квадрацикл — 83, 66, 103 тыс. рублей соответственно.

**Также подорожали и отдельные виды диагностики при прохождении контрольной проверки:**

Проверка тормозной системы автомобиля (кроме автомобилей с колесной базой 4х4) — 63 тыс. рублей;

Проверка тормозной системы легкового автомобиля с колесной базой 4х4 — 77 тыс. рублей;

Проверка внешних световых приборов — 36 тыс., степени светопропускания стекол — 31 тыс.; герметичности агрегатов и систем — 30 тыс., проверка внешнего вида и комплектации — 31 тыс. рублей.

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

## *Хто атруціў Азаранка?*

*Беларуска Вікторыя Азаранка пакідае дваццатку лепшых тэнісістак свету.*

У 1/4 фіналу Адкрытага чэмпіянату ЗША Вікторыя прайграла расіянцы Кацярыне Макаравай — 4:6, 2:6 і, такім чынам, не змагла абараніць рэйтынгавыя ачкі, якія зарабіла на гэтым жа турніры ў мінулым годзе. Зараз Азаранка апусціцца ў сусветным рэйтынгу з 17-га аж на 24-е месца.

Дарэчы, маркетынгавае піяр-агенцтва, якое прадстаўляе інтарэсы беларускі, паведаміла са спасылкай на прадстаўніка былой першай ракеткі свету, што напярэдадні матча спартсменку моцна ванітавала і яна не магла трэніравацца. Маўляў, Віка атруцілася, хоць гэта і не апраўданне пасля паражэння.

Сама Віка глядзіць на сітуацыю філасофскі: *"Гэта не канец свету. Два месяцы таму я наогул не магла марыць, што буду ўдзельнічаць у Адкрытым чэмпіянаце ЗША, а зараз згуляла так, як магла. Турнір для мяне закончыўся — канец гісторыі".*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

З ЖУРНАЛІСЦКАГА БЛАКНОТА

# Гаротніцы?

Цягам мінулага месяца мне давялося сутыкнуцца з дзвюма шматдзетнымі маці, якія скардзіліся на свае праблемы і невыноснае жыццё.

Першая, Кацярына, распавяла, што яны з мужам набылі дом у вёсцы побач з раённым цэнтрам. Усё было добра, нават грошы засталіся пасля такой вялікай пакупкі. Ды вось з два гады таму муж паехаў у Маскву, дзе яго... забілі. А бяда, як кажуць, адна не ходзіць. Сёлета вясной згарэла хата. Цяпер маладая жанчына скардзіцца, што ёй з дзецьмі даводзіцца жыць у лазні, а мясцовыя ўлады не спяшаюцца дабудоўваць дом.

Кацярына правяла экскурсію па новым доме, што ўзводзіцца замест таго, што згарэў. "*Вунь тыя два пакоі — гэта на месцы старой хаты. Але пасля пажару я вырашыла, што былой плошчы нам будзе замала, таму заліла новы фундамент, пад большы дом. У выніку дабудаваліся чатыры пакоі, кухня, асобны пакой для катла. Вось тут у мяне будзе кухня, вось тут — ванная і прыбіральня. Яны вялікія, я люблю, каб было шмат прасторы. Толькі праблема ў тым, што на новы вялікі дах не хапіла матэрыялаў*".

Памеры новых пакояў і будучага дома сапраўды ўражваюць. Тут у двор да Кацярыны ўвайшла суседка:

— *Ой, калі толькі гэта здарылася, то ўсе суседзі адразу панеслі ім дапамогу — у каго што было: рэчы, ежу, коўдры, бялізну, мэблю... І адразу прыносілі, і цяпер прыносяць. Яшчэ і па паўмільёна ўсе скінуліся. А як жа? Такая бяда! У нас ніколі тут пажараў не было*.

Старэйшая дачка Кацярыны распавяла, што пажар адбыўся ў той час, калі яна была ў школе. У доме заставаліся толькі маці і дзядзька Коля (менавіта гэты мужчына цяпер дапамагае па гаспадарцы). Тут Кацярына раптам зашаптала мне на вуха: "*Вы толькі пра Колю нічога не пішыце, бо ён не захоча, каб яго жонка пра гэта чытала*". Але падрабязнасці прыватнага жыцця жанчыны мяне цікавілі ў самую апошнюю чаргу.

— *Дык у чым праблема? Дом не быў застрахаваны, але вам пайшлі насустрач. Будаўнікі працуюць у вас бясплатна, матэрыялы таксама вам далі бясплатна. Такімі тэмпамі праз які месяц усё скончаць. Напэўна, скончылі б і раней, але вы ж размахнуліся на дом, можна сказаць, у тры разы большы, чым той, што згарэў*, — разважаю я.

А ў адказ чую:

— *Гэта так, але я хацела б, каб вы надрукавалі мой рахунак. Няхай людзі пералічваюць на яго грошы: мне ж яшчэ будаўнічыя матэрыялы патрэбны — металачарапіца, сантэхніка ды і шмат чаго іншага. У адной газеце рахунак ужо раз надрукавалі, дык людзі нешта пералічылі.*

— *Колькі?*

— *Дакладна не памятаю... З дзясятак мільёнаў рублёў. Але хіба гэта грошы? Трэба зноў мой рахунак надрукаваць. Распавядзіце маю гісторыю: згарэлі, няма куды падзецца і ўсё такое. Так, наш выканкам мне дапамагае, але гэтага недастаткова. Намеснік старшыні нават нумар свайго мабільніка мне даў, каб тэлефанавала, калі што. Але ў іх жа бюджэт абмежаваны...*

Вярталася я ў Мінск у нейкай разгубленасці, а потым не змагла ні радка напісаць пра тое, як "пакутуе" сям'я. Мяне сапраўды здзівілі апетыты маладой маці, якая мае трох дзяцей. Іншая рада была б, што пасля пажару чужыя людзі дапамаглі адбудаваць ёй хату, а гэта вырашыла за кошт дзяржавы вымахаць двухпавярховы катэдж. І чамусьці больш за ўсё мне шкада стала нават не яе траіх дзяцей, а таго самага намесніка старшыні выканкама, які неабдумана пашкадаваў жанчыну і цяпер з усіх сіл вымушаны трымаць слова... Калі б ён усім так дапамагаў! Дык дзе там — мясцовы бюджэт не дазваляе вуліцы прывесці ў парадак.

Не забылася гэтая гісторыя, як яшчэ адна шматдзетная маці паклікала мяне ў дарогу. Праўда, на гэты раз давялося ехаць нядоўга — гарадок у некалькіх кіламетрах ад Мінска. Спачатку заехала ў маленькую вёсачку. Там Наталля паказала пакойчык у бацькоўскай хаце: ля адной сцяны — двухпавярховы ложак для малодшых дзяцей, на падлозе — матрац для 12-гадовай дачкі. Для самой жанчыны і мужа — велізарны ложак-аэрадром. У гэтай хаце сям'я зараз жыве. Жанчына скардзіцца, што вымушаны жыць у такіх умовах, нягледзячы на тое, што набылі ў Смалявічах дзве суседнія кватэры ў адным доме.

Яна доўга распавядае, што не могуць засяліцца, бо новы дом пачаў правальвацца, а рызыкаваць жыццём сваіх дзяцей яна не гатова. Да таго ж яна нібыта не можа стаць уласнікам набытых кватэр, бо там нешта "чыноўнікі намудрылі". Потым пасыпаліся аргументы, што ў доме няма сантэхнікі, не зроблена падлога, не паклееныя шпалеры, ды і столь таго і глядзі абваліцца... Столькі важкіх аргументаў адразу!

Калі ж мы пад'ехалі да дома, то адразу кінуўся ў вочы прыгожы палісаднік. У пад'ездах чыста, утульна, на вокнах кветкі. На першым паверсе — веласіпеды, каляскі. Адразу відаць, што жывуць у доме маладыя сем'і і за жыццё сваё і сваіх дзяцей не баяцца.

Кватэры Наталлі аказаліся плошчай 60 метраў кожная. Шклопакеты, газавы кацёл, пліта, вялізная лоджыя ўздоўж кватэры. Але гаспадыня паказвае невялікія расколіны на сцяне пад столлю. "Вось, бачыце? Гэта ж прыкмета таго, што дом можа абваліцца!"

Аднак я, пры ўсім старанні, ніякіх прыкмет магчымай трагедыі ўбачыць не магу. Ну, у каго не было, што патрэскалася тынкоўка?..

Тым часам Наталля пачынае перабіраць пошту, што назапасілася за яе адсутнасць. На адным з канвертаў — фота старшыні ЛДПР Уладзіміра Жырыноўскага, на другім — упаўнаважанага пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі па правах дзіцяці Паўла Астахава.

— *У мяне ж расійскае грамадзянства,* — тлумачыць жанчына. — *Мы пераехалі ў Беларусь з Ліпецкай вобласці ў 2005 годзе. Але я тут нарадзілася, школу скончыла. Вось спадзяюся, што Жырыноўскі і Астахаў дапамогуць мне разабрацца з мясцовымі чыноўнікамі. А то я тут у вас адна хаджу па судах і ніводнага яшчэ не выйграла*.

Я задаю прамое пытанне: "Што вы хочаце атрымаць у выніку? Дзяржава ж і так вам, грамадзянцы іншай краіны, ужо дапамагла?"

Наталля шчыра адказвае:

— *Я сапраўды набыла гэтыя кватэры па льготным крэдыце пад 1%. Заплаціла па 50.000 долараў за кожную. Але гэта 120 метраў, а мне павінны даць 140, бо ў вас такія нормы. Дык няхай забіраюць гэтыя кватэры, а мне дадуць хоць у Мінску, хоць дзе тую плошчу, якая мне, шматдзетнай маці, гарантавана законам. Я схадзіла на прыём да кіраўніка Мінскага аблвыканкама Сямёна Шапіры, але ведаеце, што ён сказаў? Маўляў, панараджалі ад розных мужыкоў, а цяпер тут правы качаеце, па судах усіх цягаеце. Так і сказаў! Толькі не яго гэта справа, колькі ў каго мужоў. Я дабіваюся свайго і разлічваю, што Жырыноўскі і Астахаў мне дапамогуць. У нас жа адзіная дзяржава. Не?..*

*У хуткім часе ўсё роўна будзе адзіная...*

Дзеці гэтай жанчыны спяць адно над адным, а маці з чарговым мужам — на шыкоўным велізарным ложку, гэта для мяне як для маці і жанчыны, шчыра кажучы, дастатковая характарыстыка. Але пасля сустрэчы з Наталляй на ўсялякі выпадак іду ў мясцовае БТІ і фірму, у якой Наталля набыла кватэру. Там мяне запэўнілі, што нармальныя яна мае кватэры: у такіх жа ў тым жа доме іншыя сем'і жывуць і ніякіх прэтэнзій ні да кога не маюць. Проста жанчына — бедная, гаротная — прэтэндуе на пентхаўс, бо кватэры плошчай 140 квадратных метраў належаць да элітнага жылля. Натуральна, у Смалявічах такіх не знойдуць, бо людзі ў райцэнтры не багатыя, жывуць сціпла, а значыць, падобнае жыллё не будуецца. Праўда, і шукаць яго ніхто не збіраецца. Тым больш што двое з пяці дзяцей Наталлі ўжо жывуць асобна.

***

Гісторыі гэтых жанчын розныя, але кожная ідзе на адкрытыя хітрыкі, каб задаволіць свае амбіцыі. Пры гэтым абедзве сцвярджаюць, што ўсё робяць у інтарэсах дзяцей. Адна гатова невядома які час трымаць дзяцей у лазні, каб замест звычайнай вясковай хаты атрымаць катэдж, другая — туліцца з дзецьмі ў маленькім пакойчыку, каб вымусіць улады даць ёй шыкоўныя апартаменты. Асабіста я заўсёды выступала за тое, каб дзяржава дапамагала шматдзетным маці, але цяпер разумею, што не такая адназначная гэтая праблема. Бо з'явіліся асобы, якія бессаромна выкарыстоўваюць дзяцей у мэтах асабістага абагачэння. І з дзяржавы, і з добрых людзей яны гатовы высмактаць усё. Нібы не яны, а мы нешта вінны іхнім дзецям.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ЧУЛІ?

## Беларусь чацвёртая ў свеце па колькасці студэнтаў

Паводле дадзеных ЮНЕСКА аб колькасці людзей, якія атрымліваюць сярэднюю спецыяльную, вышэйшую і адукацыю пасля ВНУ, у разліку на 10 тысяч чалавек, Рэспубліка Беларусь (641 чалавек) апярэджвае такія развітыя дзяржавы, як Фінляндыя (592 чалавекі), Швецыя (496 чалавек), Нарвегія (495 чалавек), Аўстрыя (461 чалавек), Францыя (374 чалавекі).

Наша краіна саступае толькі Рэспубліцы Карэя (699 чалавек), ЗША (683 чалавекі) і Чылі (657 чалавек).

ТЫМ ЧАСАМ

## Патрабуюцца навучэнцы

У 160 прафесійных ліцэях і прафесійна-тэхнічных каледжах краіны тэрміны прыёму дакументаў падоўжаны да 15 верасня. Прычына — вялізныя недаборы. Больш за ўсё абітурыентаў недалічыліся ў навучальных установах машынабудавання, лёгкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі і будаўніцтва.

ЗА РУЛЁМ!

## К 2017 году — новае кальцо

Днямі Аляксандр Лукашэнка наведаў будаўнічую пляцоўку другой кальцавой аўтамабільнай дарогі вакол Мінска і даў даручэнне: да пачатку 2017 года будаўніцтва дарогі павінна быць завершана.

*"У наступным годзе да гродзенскага напрамку ўся дарога павінна быць пабудавана, і затым на ўчастак да скрыжавання з маскоўскай дарогай у вас застанецца яшчэ год, максімум паўтара",* — заявіў Лукашэнка.

Як вядома, працягласць другой кальцавой аўтадарогі вакол сталіцы складзе 154 кіламетры.

## Хуткасць за 120 кіламетраў

Завёў размову Аляксандр Лукашэнка і наконт хуткаснага рэжыму. Ён заявіў, што дазволеную хуткасць руху па МКАД можна павялічыць да 120 кіламетраў у гадзіну (цяпер — 90). *"Трэба да 120 кіламетраў у гадзіну павялічваць і па іншых дарогах. Нагадайце, каб унеслі прапанову",* — даручыў ён. Пры гэтым кіраўнік дзяржавы падкрэсліў: прымаць рашэнне аб устанаўленні тых ці іншых хуткасных абмежаванняў на аўтадарогах павінны ў першую чаргу транспартныя службы, а не міліцыя.

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

*Михаил ЗАХАРОВ:*

# «Для Руслана Салея на первом месте была семья»

*7 сентября исполняется три года, как не стало выдающегося белорусского хоккеиста Руслана Салея, погибшего в авиакатастрофе под Ярославлем.*

О Руслане и его таланте, семье и увлечениях рассказывает близкий друг хоккеиста — белорусский тренер **Михаил ЗАХАРОВ.**

**— 7 сентября 2011 года. Ярославский "Локомотив", в составе которого дебютирует Руслан Салей, вылетает на первый матч сезона в Минск. Самолет терпит крушение… Помните тот день?**

— Я думаю, что его во всем мире многие не забудут. Друзья, близкие родственники тех, кто трагически погиб. Среди них были чехи, словаки, американцы, белорусы... Эта трагедия интернациональная.

**— А как вы узнали о гибели Руслана?**

— Из Москвы позвонили знакомые и сообщили, что разбился самолет. Но это была сырая, неофициальная информация. Я перезвонил в Федерацию хоккея, поговорил с братом Руслана Вадимом Салеем... Достоверно никто ничего не знал. Позже мне уже сказали: "Руслан погиб. Увы, но это так". Я еще раз связался с Вадимом, все рассказал...

**— Некоторые до последнего не верили, что Руслан погиб. Пошли слухи, что он, мол, отправился в Минск на машине…**

— Это были всего лишь слухи, журналисты выдумали. На машине он на самом деле поехал в Ярославль, но на матч летел со всей командой. Этот вопрос даже не обсуждался, что он приедет раньше. Мы с ним лишь договорились, что в Минске встретимся вечером после ужина.

**— Руслан долгое время играл в Америке и вдруг переходит в "Локомотив". Не было вариантов остаться за океаном?**

— Знаете, у него всегда была мечта выиграть Кубок Стэнли. Даже в "Детройт" перешел хоть и на худшие в материальном плане условия, но на перспективу победы. Не получалось, годы шли... А здесь подвернулся вариант с "Локомотивом", в котором в то время собрался такой сильный состав, что они бы точно стали бы первыми в КХЛ. Или, по крайней мере, играли бы в финале.

**— Получается, что этот переход стал для хоккеиста каким-то злым роком?**

— Наверное, что-то в этом есть.

**— А вот еще один поворот судьбы. В 1995 году Руслан не прошел допинг-контроль, его дисквалифицировали на полгода, после чего он уехал играть в Америку. На ваш взгляд, попал бы Руслан в НХЛ, если бы не тот допинговый толчок?**

— Салей был профессионалом с большой буквы, так что своего он рано или поздно, но достиг бы. Таких единицы. Я в свое время 18-летнему Мишке Грабовскому всегда Руслана в пример ставил, показывал, как надо тренироваться.

**— В 1990-е зарплаты у хоккеистов были в стране не очень высокие, но как работали! Помню, как радовался Руслан, когда президент "Тивали" подарил ему "девятку"…**

— Не подарили, а он ее заслужил. Клуб выделил машину именно за большие заслуги в команде. "Девятка" тогда была, наверное, самая лучшая машина.

**— Вы часто бывали в гостях у Руслана в Америке?**

— Нечасто, но бывал. Даже жил у него некоторое время.

**— А на свадьбе Руслана и Беттен были?**

— Не получилось, далековато все-таки лететь. Но ничего страшного. Мы позже в Минске неплохо отметили эту свадьбу.

**— Знаю, что Руслан был очень хорошим семьянином…**

— Семью свою — Беттен и троих детей — он просто обожал! Когда находился в отъезде, всегда разговаривал с ними по скайпу. У него в доме была установлена такая система, что он мог видеть, что происходит в любой комнате. Семья для него была на первом месте.

**— Когда он приезжал домой в отпуск из Америки, где обычно отдыхали?**

— Ездили в Испанию, Италию, путешествовали по Беларуси... Но Руслан много не отдыхал — дней 10—12 было для него достаточно. И затем снова тренировался — по 3 часа в день до выходных. У него каждый день был расписан.

**— Но расслабиться в отпуске мог?**

— Мог, но я даже не скажу, что это расслабление. К алкоголю он был достаточно равнодушен, я его за всю жизнь ни разу пьяным не видел. Вот сигары — это он любил! Привозил их из Штатов, постоянно мне что-то о них рассказывал, потому что я в этом деле совсем ничего не смыслю.

**— А дом в Дроздах вы посоветовали ему построить?**

Михаил Захаров, Беттен и Руслан Салей.

— Президент выделил на хоккейную сборную три участка — Леша Калюжный, Володя Цыплаков и Руслан Салей их и получили. Тогда они были лидерами в команде, все заслуженно.

**— Быстро Руслан построил дом?**

— Можно было и быстрее. Хотя он же занимался домом, когда из Америки приезжал. Все что-то переделывал, планировал... У него был такой семейный подход к строительству — чтобы каждому ребенку комфортно было. Скрупулезно, не спеша строил дом для себя и своей семьи, потому что собирался жить в Минске

**— Чем бы он здесь занимался?**

— Тренером работал бы, об этом все хоккеисты мечтают.

**— А я слышал, что он собирался ресторан открыть на "Чижовка-Арене".**

— Может, и открыл бы, но что об этом сегодня говорить?

**— Беттен с детьми тоже переехала бы в Минск?**

— Конечно, это же одна семья. Она всегда любила Минск, часто приезжала сюда с Русланом и детьми. Беттен — красивая женщина и умница! Кстати, она прекрасно готовит и, когда я был в гостях, всегда старалась что-то сделать из нашей национальной кухни.

**— В этом году она не прилетала в Минск?**

— В этом — нет. Знаете, одной с тремя детьми на руках не особо налетаешься. Да и проблем сейчас у нее хватает — детей нужно и воспитывать, и учить. Но им есть с кого брать пример.

**Алесь СІВЫЙ.**

ПАМЯЦЬ

# Успамінаючы Паэта...

Анатоль Вярцінскі, Рыгор Сітніца ўзгадваюць эпізоды з жыцця сябра.

*У Мінску ў Палацы мастацтва прайшла вечарына памяці выбітнога паэта і грамадскага дзеяча Генадзя Бураўкіна. Цёплымі пранікнёнымі словамі, вершамі, гісторыямі з жыцця сябра і паплечніка ўзгадвалі пісьменнікі, мастакі і музыканты. Са сцэны выступалі Уладзімір Някляеў, Леанід Дранько-Майсюк, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, Уладзімір Арлоў, Георгій Ліхтаровіч, Зінаіда Бандарэнка, Уладзімір Сіўчыкаў, Сяргей Законнікаў, Віктар Казько, Рыгор Сітніца. У памяць пра Генадзя Бураўкіна выконвалі песні Зміцер Вайцюшкевіч,Таццяна Матафонава з сынам Адасем, Пётр Клюеў, Павел Аракелян. Творчы вечар пры перапоўненай зале доўжыўся амаль тры гадзіны.*

# Як Генадзь Бураўкін выратаваў Белавежскую пушчу

З Генадзем Мікалаевічам мы былі ў цесным кантакце ў той час, калі ён працаваў на Беларускім тэлебачанні. Мы любілі яго як паэта і вельмі паважалі як кіраўніка.

На нядаўняй вечарыне ў Палацы мастацтва, якая была прысвечана яго памяці, я думала, што задыхнуся ад пачуццяў. Мне вельмі хацелася расказаць пра Бураўкіна нароўні з іншымі, хто выступаў, але часу не хапіла. У зале раптам пачуўся кашмарны металічны голас: "Пажарная небяспека! Пажарная небяспека! Просьба ўсім тэрмінова эвакуіравацца!" І далдоніў гэты голас так, што заглушаў усіх, хто стаяў на сцэне. Вечар быў груба перапынены.

Аб чым жа я хацела расказаць, калі б паднялася на сцэну? Пра Бураўкіна-адміністратара, вялікага начальніка, старшыню тагачаснай Белтэлерадыёкампаніі, рызыкоўнага чалавека. Таму што я ведаю такія факты, якія мала хто ведае. Ну, напрыклад, ці вядома вам, што Бураўкін выратаваў Белавежскую пушчу?

А было гэта так. У самы росквіт перабудовы, калі ўсе верылі, што яшчэ ледзь-ледзь — і ўсё ўладкуецца разумна і выдатна, наша рэдакцыя літаратурна-драматычных праграм выпускала вялікую перадачу пад назвай "Ліра". Па цяперашніх мерках яна доўжылася неверагодна доўга — паўтары гадзіны і была прысвечана якой-небудзь адной грамадска значнай тэме, якую мы, журналісты, знаходзілі і потым мясілі яе, як гліну, разглядаючы з розных бакоў.

І вось аднойчы ў рэдакцыю прыходзіць ліст з Белавежскай пушчы, напісаны маладымі навуковымі супрацоўнікамі і егерамі, якія не так даўно прыехалі ў пушчу на працу і з жахам убачылі, што запаведны лес гіне! Чаму?!

Паводле статуту пушча была запаведна-паляўнічай гаспадаркай. На самай справе паляваць там маглі толькі абраныя: першыя асобы Крамля і іх высокія госці. Як цяпер вядома, і Хрушчоў, і Брэжнеў былі заўзятымі паляўнічымі. Для іх егеры спецыяльна "прывязвалі" жывёл. Што гэта значыць, зараз шмат хто ведае, а тады нам адкрылася вось што. Зручнае крэсла, абабітае скурай, стаіць на паляўнічай вышцы, пражэктарамі вакол высвечваецца прастора, і кожную ноч егеры там кормяць жывёл. Тыя паступова прывыкаюць рэгулярна прыходзіць туды, на месца харчавання, "прывязваюцца". Ну, а калі прыязджаюць паляўнічыя, жывёл без цяжкасцяў расстрэльваюць з вышкі ва ўпор.

Брэжнеў памёр, сярод яго паслядоўнікаў паляўнічых не было (хіба толькі некаторыя афіцыйныя госці Крамля), але парадкі, заведзеныя ў Белавежскай пушчы, захоўваліся: парнакапытных рэгулярна прыкормлівалі. Паступова жывёл развялося больш, чым гэты арэал можа пракарміць! Яны зжэрлі ўвесь падлесак. А хвоі, між іншым, стаяць толькі 200 гадоў. Гэта значыць, што старыя ўжо пачалі валіцца, а новых у пушчы няма: яны не паспявалі вырасці, як іх з'ядалі велізарныя статкі парнакапытных.

Ведалі пра гэта не толькі егеры, але і нашы навукоўцы — акадэмікі Мікалай Уладзіслававіч Смольскі, Леанід Міхайлавіч Сушчэня. Але публічна выказаць не маглі нічога. І мы, журналісты, вырашылі схапіцца з сістэмай за выратаванне пушчы.

Але спачатку трэба было атрымаць дазвол на ўезд у запаведнік. Кіраўнік спраў Саўміна, нібы прадчуваючы нешта, цягнуў з пропускам месяца паўтара. Я круцілася, бы вуж на патэльні, казала яму, што едзем здымаць птушачак і кветачкі. Нарэшце паабяцала: прыедзем да шлагбаўма, станем ля яго і здымем на камеру тое, як вы нас не пускаеце. Увогуле, яны ўжо не тое што баяліся грамадскай думкі, але ўсё-такі прыслухоўваліся да яе раскатаў. І мы атрымалі камандзіроўку. Якую, дарэчы, потым яшчэ некалькі разоў адмянялі. Але мы ўсё ж такі ў запаведнік прыехалі.

Там нас "ахінулі клопатам" — да тэлевізійнай групы прымацавалі намесніка дырэктара па навуцы. Ён нас апекаваў, а галоўнае — увесь час спрабаваў падпаіць маіх рэжысёра і аператара. Як мы ад яго ўцякалі, каб патрапіць да навуковых супрацоўнікаў (а яны ж "шыфраваліся", адкрыта сустрэць нас не маглі, чакалі дзесьці за вальерамі, за кустамі), — асобная гісторыя. Але мы ўсё знялі, што хацелі: мяккія крэслы на вышках, вытаптаны падлесак... Знялі нават палац у Віскулях, аэрадром — сакрэтныя па тых часах аб'екты. А потым у Мінску перад камерамі выступілі акадэмікі Сушчэня і Смольскі, як магутная дружына.

Атрымалася перадача-бомба, выбух. Але Генадзя Мікалаевіча Бураўкіна ў гэты час у Белтэлерадыёкампаніі не было, яго адаслалі ў Маскву вучыцца ці то на месяц, ці то на два. Таму перад эфірам перадачу паглядзеў намеснік старшыні Чанін, які замяняў Бураўкіна. І выклікаў нас. Мы з рэжысёрам Тамілам ішлі да яго, як два тэрмінатары, прычым, не дамаўляючыся, абодва неслі ў руках часопіс "Огонек" — у тым нумары быў якраз разгромны артыкул Эльдара Разанава, у якім ён распавядаў, чаму парваў з тэлебачаннем. Увогуле, мы рыхтаваліся да сутычкі. Чанін быў добры журналіст, але да смерці напалоханы начальнік. Ён сказаў прыкладна так: "Як можна выдаваць ў эфір гэтую перадачу? Не і не! Першы сакратар ЦК Ціхан Якаўлевіч Кісялёў пакрыўдзіцца — ён жа некалі працаваў першым сакратаром Брэсцкага абкама!"

Уяўляеце довад?!

Мы трасём часопісам, цытатамі, а ён нас проста выстаўляе з кабінета. А потым перадача знікла. Яе сцерлі! Месяц здымак, тыдзень мантажу... Але аднаго не ўлічыў начальнік: амаль увесь фільм мы здымалі на кінастужку. Ну а тое, што здымалі на відэастужку, пайшлі і запісалі яшчэ раз. І ніхто не адмовіўся па другім крузе даць інтэрв'ю. І я зноў зманціравала фільм, ужо "выціснуўшы" ўсю ваду, — мне здаецца, другі варыянт атрымаўся нават лепш, вастрэй.

Вядома, мы чакалі Генадзя Мікалаевіча. Як толькі ён прыехаў, я пайшла да яго на прыём. Сказала: "Хто павінен абараняць Белавежскую пушчу? Я, украінка, ці вы, беларусы?" Ён паглядзеў перадачу і паклікаў чыноўніка, які ў гэты час узначальваў камітэт па ахове прыроды. І яшчэ раз паглядзеў яе разам з ім. І выпусціў нашу перадачу ў эфір без адзінай купюры!

Яна зрабіла эфект выбуху бомбы, чэснае слова. Ніна Мікалаеўна Мазай, якая займала ў тыя гады пасаду намесніка старшыні Савета міністраў, нават загадала ўсяму апарату паглядзець яе. Хто не паспеў, прыходзіў да нас на студыю, і мы потым круцілі фільм спецыяльна для іх. Мы дамагліся свайго: у той момант да Белавежскай пушчы была прыцягнута вялікая ўвага ўрада і грамадскасці. Гэта была перамога! І толькі дзякуючы Генадзю Мікалаевічу Бураўкіну. Хіба ён не рызыкаваў, калі пускаў яе ў эфір? Яшчэ як рызыкаваў! Але не думаў пра сябе.

Вядома, яго паэзія — выдатная:

*Я ўдзячны лёсу,*
*што з усіх краёў*
*Ён выбраў для мяне навекі гэты,*
*Дзе бальшакі прастуюць між гаёў,*
*А па сцяжынах коцяцца ранеты...*

Яго паэзія — галоўны помнік яму. Але я думаю, што такім жа помнікам Генадзю Мікалаевічу можа лічыцца і Белавежская пушча, якую ён выратаваў у другой палове 1980-х.

**Мая ГАРЭЦКАЯ.**

ДИСКУССИЯ

# Бесплатный сыр может быть только в мышеловке

Обращаюсь к вам, товарищ Шофман! Я, как и вы, являюсь постоянным подписчиком "Народной Воли" и также читаю ее от корки до корки. Если бы не читал эту газету, то был бы "дурным", как кирзовый советский "бот" (по-русски — сапог).

Вот прочел 29 августа и вашу статью "Не наломать бы больше дров, профессор...". Вы пишете: "Мы, выходцы из глухих деревень и небольших городков, получили бесплатное образование...". Не помешало бы добавить, товарищ Шофман, к вашему утверждению еще "бесплатное здравоохранение, бесплатное жилье и другое". Ведь все это, как говорится, несусветная чушь!!! Я тоже, как и вы, выходец из деревни и оканчивал сельскую школу. Мои родители платили за мое образование, платили в высших учебных заведениях. Чтобы не быть голословным, приведу исторический документ: Постановление Совета Народных Комисаров СССР №1860 от 2 октября 1940 года.

"1.Ввести с 1 сентября 1940 года в 8, 9 и 10-х классах средних школ, техникумах, училищах и высших учебных заведениях плату за обучение.

2.Установить для учащихся 8, 9 и 10-х классов средних школ, техникумов и училищ следующие размеры платы за обучение:

а) в школах, техникумах, училищах Москвы и Ленинграда, а также столичных городов союзных республик — 200 рублей в год;

б) во всех остальных городах, а также и селах — 150 рублей в год.

3.Установить следующие размеры платы за обучение в высших учебных заведениях СССР:

а) в высших учебных заведениях Москвы, Ленинграда и столиц союзных республик — 400 рублей в год;

б) в высших учебных заведениях других городов — 300 рублей в год".

Вот так, товарищ Шофман!

Что касается **бесплатного здравоохранения, бесплатного жилья и другого,** то приведу данные из всесоюзной газеты "Социалистическая индустрия", которая издавалась до распада СССР. Однажды она напечатала вычеты из нашей зарплаты, которые никогда не отражались в расчетных ведомостях. Это:

— на пенсию — 36%,

— на жилье — 22%,

— на здравоохранение — 11%,

— на образование — 10%,

— на транспорт — 6%,

— на соц.страхование — 5,4%,

— на содержание управлен. аппарата — 5%ю

Всего 95,4%! На зарплату, за которую мы расписывались, оставалось всего 4,6%, что соответствовало тогда 150—300 рублям в месяц. И даже с этой суммы умудрялись удерживать еще подоходный налог.

Ну так что, товарищ Шофман и вам подобные?! Будем и дальше долдонить о "бесплатном" СССР? Ведь 70 лет нам вдалбливали в мозги эту ложь. Вы и сегодня продолжаете нести эту ложь новому поколению людей. Угомонитесь!!! Ведь каждому известно, что бесплатный сыр может быть только в мышеловке.

**Борис СТАРИКЕВИЧ, пенсионер, 80 лет.**

*Минск.*

ОТ ДУШИ

# Как «Народная Воля» помогала нам лечиться...

Летом нынешнего года я пять недель находилась в боровлянском госпитале инвалидов Отечественной войны и ветеранов труда. Большую часть времени была на постельном режиме. Единственным моим развлечением в тот период оказалась моя любимая "Народная Воля". Скучать она не давала мне и еще двум моим соседкам по палате. Одна из них — инвалид Отечественной войны I группы, возраст — 92 года, постоянно проживает в г.Речице Гомельской области. Женщина абсолютно одинокая, хочется ей помочь. К сожалению, с "Народной Волей" до этого она не была знакома. А молва о газете до нее дошла плохая: мол, газета оппозиционная и пишут в ней всякие небылицы, страшилки.

Мне регулярно из дома привозили свежие номера "Народной Воли". Я читала их и передавала соседкам. Все с интересом знакомились со многими материалами. Больная из Речицы сначала брала газету в руки с каким-то недоверием. Но, прочитав одну-другую статью, стала интересоваться, а когда будет следующий номер. Чем больше читала, тем живее вставляла свои реплики:

— Это истинная правда... Это очень жизненные проблемы... Газета пишет о том, что волнует людей...

Читая сообщения о ситуации в Украине, она порой не сдерживала слез. Мы вместе прожили в госпитале 23 дня. Узнали больше друг о друге, относились один к одному с пониманием, сочувствием.

Когда ее выписывали из госпиталя, администрация вызвала по телефону машину из райздрава Речицы, чтобы приехали за ней. И у меня возникла мысль помочь этой одинокой больной женщине хотя бы газетой и этим доставить ей радость и оказать внимание. Я обратилась на почту с вопросом: как оформить подписку на адрес в другом городе? Не знаю почему, но мне ответить не смогли. Поэтому обращаюсь к вам, уважаемая редакция, с просьбой пояснить, существует ли возможность выписать газету в Минске, чтобы ее доставляли адресату в Речице. Если да, то, пожалуйста, укажите стоимость.

**Фрида ИДЕЛЬЧИК.**

*Минск.*

### ОТ РЕДАКЦИИ

Уважаемая Фрида Моисеевна!

Спасибо вам за теплый рассказ. Мы будем очень рады, если с вашей помощью у нас увеличатся ряды читателей.

Не знаем, кто и что вам сказал в минском почтовом отделении, но есть положение, которое распространяется и на "Народную Волю". Подписаться на нашу газету можно в любом почтовом отделении независимо от места проживания. То есть вы можете спокойно оформить подписку для своей бывшей соседки по палате, которая проживает в Речице, чтобы она получала "Народную Волю" с октября, сделать это нужно до 28 сентября. Стоимость месячной подписки — 35.000 рублей.

НЕ МОГУ МОЛЧАТЬ!

# *Это наша и ваша боль, мальчики!*

С того дня прошло почти две недели, а потрясение от увиденного не покидает меня.

Я имею в виду постыдное шествие пленных в Донецке, которое организовали сепаратисты 24 августа. Это чудовищно! И весь мир, и все здравомыслящие люди (я уверена в этом) были потрясены. Иначе быть не может!

Это задело мое сердце еще и потому, что во время войны я видела пленных — и советских, и немецких. Я коренная брестчанка. Всю войну, с ее первого дня, мы с мамой жили в Бресте по адресу: ул.Московская, 110. Рядом в бараках за колючей проволокой находились сначала советские, а затем немецкие пленные солдаты. И тем, и другим мы, дети, бросали куски хлеба, вареную картошку и другие овощи. Нам было жалко голодных, изможденных людей. Но это была война между Советским Союзом и Германией.

И что же мы видим сегодня, спустя 70 лет?! Провели по Донецку сто мальчишек, волею судьбы попавших в плен, а по бокам колонны шли так называемые "ополченцы" с овчарками, а сзади — поливальные машины.

Люди! Вы это видели?! И им, и нам разве не было стыдно и больно? И вам, постановщикам этого грязного шоу в России, разве не стыдно? Как этим мальчишкам жить с клеймом всю жизнь, помнить об этом? Но это не позор, это ваша и наша боль, мальчики.

Украина будет свободной, будет независимой и единой.

**Тамара Петровна ТАРАСОВА, пенсионерка, инвалид II группы по зрению, 77 лет.**

*Брест.*

СЛОВА БАЦЬКОЎ

# Вялікі дзякуй усім, хто адгукнуўся на наша гора...



23 жніўня амаль апоўначы ў Вільнюсе напрыканцы канцэрта гурта "Ляпіс Трубяцкі" спынілася сэрца нашай дачушкі Аксаначкі. Нельга пераказаць словамі наш боль і смутак!

Мы і раней ведалі, што добрых людзей на свеце шмат. Але ўсё, што было звязана з вяртаннем Аксаны на Радзіму і яе пахаваннем, пераканала нас у тым, што добрых людзей нашмат больш, чым мы думалі.

Дазвольце праз вашу газету выказаць падзяку ім усім. У першую чаргу маладзёну **Уладзіміру Булаўскаму** з Віцебска, які быў кіраўніком групы з Полацка-Наваполацка. Чатыры дні ў Вільнюсе ён дапамагаў маёй жонцы Надзеі прайсці праз усе працэдуры, звязаныя з вяртаннем Аксаначкі дадому.

Вялікі дзякуй арганізатарам канцэрта, урачу "хуткай дапамогі" **Аляксандру Фейгіну**, беларускаму консульству ў Літве, супрацоўнікам усіх службаў з літоўскага боку — паліцыі, загса, перакладчыкам, супрацоўнікам міграцыйнага аддзела, транспартнай кампаніі, мытні — за чалавечыя адносіны і жаданне дапамагчы як мага хутчэй у такой жалобнай справе.

Шчыры дзякуй суполцы "Будзьма беларусамі!", маладым людзям, што былі на тым канцэрце.

Чалавечы дзякуй удзельнікам гурта "Ляпіс Трубяцкі" за цёплыя словы спачування, падтрымку і дапамогу. Упэўнены, што і надалей іхняя творчасць будзе дапамагаць людзям быць моцнымі, вольнымі і незалежнымі.

Вялікі дзякуй усім неабыякавым людзям, якія адгукнуліся на наша гора, спачувалі, падтрымлівалі, дапамагалі нам у цяжкія хвіліны, звязаныя з пахаваннем нашай любай дачушкі Аксаны.

Беларусь і Літва для нас непадзельныя, як і было раней.

**З павагай і ўдзячнасцю да ўсіх добрых людзей —**

**Аляксандр СУХАРУКАЎ.**

*г.Полацк.*

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# *Як не згубіць свае грошы?*

*Зарабляем мы сапраўдныя капейкі, даводзіцца эканоміць на ўсім, каб забяспечыць сябе хоць якой "падушкай бяспекі" на "чорны дзень". Але пастаянна з жонкай вядзём спрэчкі, як лепей захоўваць гэтыя зберажэнні. Бо ўжо столькі раз мы іх гублялі, столькі разоў яны абясцэньваліся, столькі разоў змяншаліся з-за інфляцыі... Прашу парады спецыялістаў.*

**Антон Сяргеевіч БАРАНОЎСКІ, г.Мінск.**

Параду нашаму чытачу даў фінансавы аналітык **Вадзім ІАСУБ.**

— Не толькі зараз, але ў любы час самая лепшая тактыка — простая і кансерватыўная. Тым, хто трымае зберажэнні ў валюце, варта падзяліць іх напалову паміж доларамі і еўра. І не перажываць з-за ўзаемных ваганняў гэтых дзвюх валют. Але дэпазіты ў беларускіх рублях пры бягучых працэнтных стаўках парадку 30 працэнтаў гадавых (ці крыху менш) з улікам бягучай дэвальвацыі і інфляцыі ўсё яшчэ больш выгадныя, чым валютныя.

ПЫТАННЕ—АДКАЗ

# *Расліна, якая ачышчае кроў*

*Жонка доўга хварэла, спачатку меркавалі, што прастуда, а потым урачы ўсё ж такі паставілі дыягназ "абструктыўны бранхіт". Яна піла шмат лекаў, у тым ліку і антыбіётыкі, а зараз скардзіцца на слабасць, нізкі ціск. Знаёмы прапанаваў ягады барбарысу, якія вырошчвае на лецішчы. Кажа, што гэта найлепшы сродак ачышчэння крыві. Ці так гэта?*

**І.П.КАЗЛОЎСКІ, Мінск.**

Сапраўды, у старажытных Егіпце, Індыі і Кітаі барбарыс быў вядомы як лекавая культура. Яшчэ задоўга да нашай эры вавілонскія майстры паведамлялі пра ягады барбарысу як пра сродак, які ачышчае кроў. З даўніх часоў ён вядомы як гаючая расліна, што эфектыўна ўздзейнічае на арганізм пры жаўтусе і малярыі, ягады яго павышаюць апетыт, наталяюць смагу, служаць мачагонным і жаўцягонным сродкам. Сок з ягад мяккі, лёгкі паслабляльны сродак. З іх жа атрымліваецца нядрэннае віно, якое п'юць як лекавы сродак пры слабым апетыце, галаўным болі.



Карыснымі з'яўляюцца нават карані, кара і лісты барбарысу. Яны змяшчаюць алкалоіды, з якіх лепш за іншыя вывучаны берберын, які мае ўласцівасць спыняць кроў, паніжаць ціск і ў той жа час актывізаваць работу сэрца. Лісты барбарысу прымяняюць пры жоўцекамянёвай хваробе, падагры, рэўматызме, а выцяжку з каранёў — для паласкання роту пры запаленні дзяснаў.

Сям'я барбарысавых налічвае звыш 200 відаў. Найбольш распаўсюджаны барбарыс звычайны, барбарыс амурскі, кітайскі, прадаўгаваты. Яго па праву можна аднесці да дэкаратыўных кустоў. У іх прыгожыя і кветкі, і плады, і нават лісты. Ружовыя, чырвоныя, пурпуровыя, сіне-чорныя, часта з воскавым налётам ягады могуць мець самую разнастайную, часам мудрагелістую форму. Яны доўга, бывае, усю зіму, трымаюцца на галінках і служаць нядрэннай падмогай для птушак у бяскорміцу.

СПОВЕДЗЬ

# Фіктыўны развод



Я амаль паўгода не давала мужу спакою: хацела ўзяць з ім фіктыўны развод. У той час жыллё яшчэ давалі бясплатна, і мне ажно карцела разбагацець:

— Зразумей жа ты, нарэшце, якая гэта будзе выгада: мы атрымаем кватэру! На цябе.

— У нас жа і так чатыры пакоі, — адпіраўся ён. — Усім хапае месца. Андрэй вучыцца ў Гродне ў інстытуце. Праз два гады і Наташа некуды паступіць. Застанёмся мы з табой ды малодшыя Коля і Ігнатка.

— Ну, а як дзеці вучацца, дзе яны будуць жыць?

— Думаю, у наш пасёлак наўрад ці вернуцца. Сама ж ведаеш, адсюль усе ўцякаюць як мага, бо тут для маладых ніякай перспектывы. Ды і ганьбіць сваё добрае імя гэтым разводам... Каб хоць прычына якая была. А так трэба будзе ліць славесны бруд, ілгаць.

— Нічога, дзеля кватэры можна і пацярпець.

Мы і сапраўды падалі на развод і праз паўгода важданіны нас развялі. Дзецям нічога пра гэта не казалі, але аднойчы наша дачка Наташа, якая тады вучылася ў дзявятым класе, прыбегла дадому плачучы:

— Мама і тата! Гэта праўда, што вы развяліся?! Суседка бабка Алеся расказвала сваёй сястры, а я пачула. Кажа, з-за нейкай кватэры, якую вы хочаце атрымаць.

— Ну і што, калі і развяліся? Калі і з-за кватэры. Усё ж для вас, сваіх дзяцей, стараемся.

— Казала, што ты, мама, на судзе сцвярджала, нібы наш тата п'яніца, грошай у сям'ю не прыносіць, нас не даглядае. Словам, верзла ўсякае такое, ад чаго сорамна. Гэта праўда?!

— Праўда, дачушка, — апусціўшы долу вочы, прамовіў муж. — Толькі не я быў ініцыятарам таго разводу.

— Але ж ты павёўся! Не супраціўляўся!

Наташа пазваніла брату і назаўтра адвячоркам Андрэй быў дома.

— Вы што, бацькі, з глузду з'ехалі?! — замест прывітання пачаў ён з парога. — Ды нават з-за вілы ў Іспаніі не варта разводзіцца, не тое што з-за нейкай кватэры ў нашым пасёлку. Няма такіх даброт на свеце, з-за якіх варта было б рушыць сям'ю. У нас цяпер, выходзіць, няма дома, дзе заўсёды быў лад і спакой. Вы працавалі, мы вучыліся. Я ехаў дадому з радасцю, а цяпер куды ехаць, што думаць?! — Андрэй у роспачы кінуў дарожную сумку на падлогу і некуды збег. Прыйшоў ён пад раніцу. П'яны. І калі мы з бацькам пачалі даказваць, што, маўляў, будзем жыць па-ранейшаму ўсе разам, што нічога ў іхнім жыцці не зменіцца, ён з болем і горыччу выкрыкнуў:

— Па-ранейшаму ўжо ніколі не будзе, бо вы адзін для другога па закону чужыя людзі і ў пэўны момант кожны вольны паступаць, як лічыць патрэбным: тата можа ажаніцца, а мама выйсці замуж...

— Ды ў нашых з татам планах гэтага і блізка няма! — запэўніла я.

— Малым раскажыце гэтыя байкі, а я ўжо даўно дарослы і ім не веру.

Было гэта вясной, а летам Андрэй ужо закончыў бы трэці курс інстытута, але яго адтуль выперлі за п'янкі і бойку ў інтэрнаце. Муж паехаў ва ўсім разабрацца, але дэкан нават размаўляць з ім не захацеў.

— Падзякуйце, што не пасадзілі, а то насілі б свайму сыну сухары. Такі добры студэнт быў, мог бы атрымаць чырвоны дыплом і раптам зусім згубіў розум. П'е, задзіраецца, крыўдзіць усіх. Калі абразуміцца, то праз год можа ўзнавіць вучобу, а не — дык як хоча. У нас тут нянек няма.

Андрэй цэлымі днямі валяўся на ложку, а пад вечар апранаўся і ішоў да пасялковых апойкаў, з якімі хутка пасябраваў. Ні пра якую вучобу і работу нават слухаць не хацеў.

— А навошта мне напружвацца, калі ёсць клапатлівыя бацькі? Яны і кватэру меліся мне прыдбаць, хоць, праўда, і ганебным шляхам, а потым і жонку падбяруць, — здзекліва гаварыў ён на нашы з мужам заўвагі.

Наташа пасля дзявятага класа паехала вучыцца ў тэхнікум, але, калі была на другім курсе, вярнулася дадому цяжарная.

— Потым давучуся, — паведаміла нам. — Нараджу малое, падгадую і давучуся.

— Гэта ты змарнавала дзецям жыццё! — крычаў у запале муж, з нянавісцю гледзячы на мяне. — Усяго табе мала, усё не так. Вось цяпер палюбуйся: адзін зараз стане горкім п'яніцам, а другая пойдзе па руках, ды што там, ужо пайшла. Добры прыклад малодшым дзецям, нічога не скажаш!

Сваркі і згрызоты скаланалі наш дом ледзь не кожны дзень. Мы без суда падзялілі маёмасць і жылі паасобку. Муж аддаваў мне палавіну зарплаты, а астатняя невядома дзе дзявалася. Але неўзабаве стала вядома: праз які год ён прывёў у свой пакой невысокую чарнявую кабету са слядамі алкагалізму на твары. У мяне, як убачыла, адняло мову. Ачомаўшыся, закрычала:

— У маю хату ты прывёў нейкую пачвару?! — і хацела ўчапіцца той кабеце ў валасы.

— Прабач, лепшай не знайшоў, — са здзекам прамовіў ён. — А наконт таго, што ў тваю хату, то няпраўда. Адзін пакой мой і каго захачу, таго ў яго і прывяду. Хоць кракадзіла! Зразумела, сквапная твая душа! Мяне перад людзьмі зганьбавала, усю сям'ю парушыла і яшчэ нешта маеш сказаць?! Заглохні, і каб я гэтага больш не чуў!

З гэтага часу мы з яго каханкай ледзь не штодзень ішлі ўрукапашную. Муж, бачачы такі расклад, звольніўся з работы і паехаў з ёю ў невядомым накірунку. Я засталася з дзецьмі. І кватэры дадатковай ніхто не даў, і мужа страціла назаўсёды. І, што самае галоўнае, лёс дзяцей паламала.

Вось табе і фіктыўны развод...

**З пашанай —**

**Марыя Антонаўна.**

ПРОБЛЕМА!

# *Деревни во мраке*

*Во многих деревнях Оршанского района в темное время улицы не освещаются. Полная темень!*

Куда мы только не обращались! И к депутатам, и в официальные СМИ... Приглашали приехать к нам хоть на ночь, прочувствовать нашу ситуацию... Представляете, вызвали "скорую помощь", а медики не могут отыскать нужный дом. Зато мрак — радость для различных злодеев. Воровство у нас процветает.

Деревни утопают в темноте, а власти удивляются, что никто не едет на село жить. А кто поедет, если деревенских жителей считают за людей второго сорта?

Государство не сводит концы с концами. В таком случае пускай и в городах отключают освещение. Не нужно устраивать разные показухи, когда в стране критическая ситуация. За счет одних крестьян, их унижения все бреши не закроешь.

**Т.В.РОЩИНСКАЯ.**

*г.Орша.*

